# У апошні момэнт.

—s—

**З Грэціі.**

БЭРЛІН. Макензэн у сваей адозві да грэкоў кажэ:

„Мы ад вас нічога не вымагаем. Між вамі і намі, перайшоўшымі вашу граніцу, німа ніякай непрыязьні. Споўніўшы нашу задачу, мы пакінем Грэцкую зямлю“.

Вэнізэлёс, як відаць, жджэ ўцечкі караля. Ен сказаў групе саюзьніцкіх журналістоў, што ён і тымчасовы урад пераедуць у Афіны у той дзень, калі кароль скажэ, што яго справа праіграна.

**З Расеі.**

ЛОНДОН. «Morning Post» даносіць:

Апрацованы амэрыканскімі інжэнерамі плян збудаваньня каналу з Расеі цераз Фінляндію вельмі паддзержывае расейскае правіцельство. Канал удоўжкі будзе мецъ 300 кілёмэтроў і будзе каштаваць 300 мільёноў рублёў.

БЭРЛІН. «Lokal Anz.» гэтак апісывае абстрэл Мурманскаго берагу:

Место і порт Александроўск двойчы абстрэлівала вялікая нямецкая падводная лодка. Станціі тэлеграфу драцянога і бяз дроту, каторые толькі нідаўна пабудавалі, спаліліся. Будынак акцызнаго упраўленьня зруйнован. Зносіны з Александроўскам прэрваны. Тэлеграмы не даходзілі шэсць дзён. 16 казённых параходоў ачышчаюць фарватэр ад чысьленых затопленых караблёў.

**Сьмерць монс. Мэніні.**

СОФІЯ Памёр монсін'ёр Мэніні, апостольскі дэлегат у Софіі і Філіпполі.

**Як ратаваць Румынію.**

ПАРЫЖ. Гэтымі днямі тут адбудзецца новая нарада ваенных прэдстаўнікоў, каб абдумаць спосаб ратаваць Румынію і забаспечыць яе ад небаспекі.

БУКАРЭШТ Паводлуг газэтных вестак, расейскіе салдаты жаляцца, што румынскі народ адносіцца да іх вельмі дрэнна.

АФІНЫ. Адна асоба с-паміж дыплёматоў на прыёмі у караля маліла яго перэмяніць сваю палітыку. Кароль адказаў, што ён хутчэй адрачэцца ад трону, чым падвядзе Грэцію пад небаспечнасць. Ен пераконан, што Румынія ў скорым часі перэстане істнаваць. Калі Грэція ўмешаецца ў вайну, дык пасьля заваеваньня Румыніі нямецкае войско пойдзе на Грэцію, каторую спаткае доля Сэрбіі і Румыніі.

ЖЭНЕВА. «Journal de Geneve» пішэ:

„Дзеля «ратунку Румыніі» робяцца гэткіе крокі. Румынскі генэральны штаб развязываецца і яго мейсцэ займець расейскі штаб, левае расейскае крыло прадоўжэно да Семіградзіі і ў Добруджу йдзе расейская падмога“.

## За акіанам.

Фінляндцы, літвіны, латышы, палякі, жыды, перэбраўшыся за акіан—у Амэрыку, даўно ўжо здалелі організавацца, наладзіць, як трэба, сваё нацыональнае жыцьцё, наладзіць узаемную помач, апеку над новымі грамадамі эмігрантоў з бацькаўшчыны. І цяпер у кожнаго з гэтых народоў ёсць у Амэрыцы свая калонія, каторая, хоць і аддзеленая бязмежнымі воднымі абшарамі ад роднаго краю, вядзе там сваю культурную работу і сваім матэр'яльным і духовым дабыткам дзеліцца з братамі ў бацькаўшчыне.

Само сабой разумеецца, што фінляндзкіе, літоўскіе, польскіе, жыдоўскіе колоніі ў Амэрыцы выяўляюць гэткую жыцьцёвую сілу затым, што ад іх выежджалі у прочкі найбольш энэргічные, найбочьш жывые элемэнты. І завісць бярэ, гледзючы на іх, калі падумаеш, чаму тые дзесяткі тысяч беларусоў, каторые перэбраліся за акіан, дагэтуль не здалелі організавацца за прыкладам другіх націй, чаму яны жывуць тамака распыленые, ня ведаючы адны аб адных, нічым між сабой не звязаные?!...

Угледаючыся на цыфры, каторые паказваюць число граматных і неграматных нашых эмігрантоў, лічучы ад 14 гадоў жыцьця, мы бачым, што працэнт неграматных эмігрантоў беларусоў (разам з невялікім чыслом маскалёў і з украінцамі) ў 1905—1909 гадах быў надта высокі. С-паміж іх чытаць і пісаць умелі 27,395 душ—56,7%, толькі чытаць умелі 269 душ — 0,5%, а ані чытаць ані пісаць ня ўмелі 20,656 душ, або 42,8%. Але беда ня толькі ў гэтым, што блізка палова нашых братоў—неграматные. Горшая беда ў тым, што і у Амэрыцы між беларусамі далей трывае той дзікі пагляд, бытцым нельга стацца культурным чэлавекам, астаючыся беларусам і гаворачы па-беларуску. І там, як у бацькаўшчыне, дайшоўшые вышэйшых ступеняў у грамадзкім жыцьці і разбагацеўшые эмігранты цураюцца сваіх братоў і цягнуцца да больш культурных і лепш організованых чужых колоній—польскіх ці расейскіх, ды самі іх узбагачываюць, забываючыся аб сваіх...

Такое палажэньне трывае ўжо многа гадоў. Дагэтуль мы нічога ня чулі, каб амэрыканскіе беларусы што-колечы зрабілі для справы адраджэньня свайго народу. Больш таго: тые з іх, каторые, дайшоўшы багацьця на чужыне, вертаюцца ў родную старонку, зразу пераходзяць да чужога нам грамадзянства.

Толькі у апошніе гады перад вайной, бытцым „першые ластаўкі“, пачалі надыходзіць ад нашых «амэрыканцоў» пісьмы па-беларуску, заказы на кніжкі і газэты беларускіе. Пачало, відаць, і там будзіцца нацыональнае сумленьне ў нашых братоў. І трэба думаць, што цяпер, калі справа беларускаго адраджэньня выходзіць на шырэўшую дарогу, калі яна пачынае апірацца на такой цьвёрдай аснові, як беларуская народная школа, як право ужываньня нашай мовы ў публічным жыцьці,—трэба думаць, яна знойдзе больш жывы воткліk між нашымі эмігрантамі ў Амэрыцы, і яны здалеюць залажыць падваліны дзеля організаціі многіх дзесяткоў тысяч сваіх братоў, дзеля наладжэньня сваей кузьні для культурна-нацыональнай работы. *Г. Б.*

## Весткі аб мітрапаліце Шэптыцкім.

Сучасная вайна—гэта вайна ня толькі армій, але і гасударственых організацій. Усё унутрэнае жыцьцё ваюючых дзержаў прыспасоблено дзеля патрэб вайны—дзеля служэньня арміі. І затым кожнае гасударство стараецца непрапускаць ніякіх вестак аб сваім унутрэным жыцьці ў варожые краі. Гэтак кожная чутка, якая ідзе акольнай дарогай з непрыяцельскай старонкі, лёгка можэ аказацца перэйначэнай або і зусім непраўдзівай.

Гэтак сама, відаць, выйшло і з весткай аб сьмерці Галіцкаго Уніяцкаго Мітрапаліта, Андрэя Шэптыцкаго, каторато маскалі дзержаць у цяжкай няволі. Скуль і як атрымала яе польская газэта «Polnische Blätter», друкаваная ў Бэрліне па-нямецку,—ня ведаем. Адно, апіраючыся на ей, тэлеграф апавесьціў усе іншые газэты, што Мітрапаліт памер. А цяпер другая польская газэта, «Dziennik Polski», надрукавала дзьве заметкі, атрыманые з Расеі цераз Штокгольм, паводлуг каторых выходзіць, што першая вестка была непраўдзівая.

Вось, што пішэ «Dziennik Polski»:

«Пецярбурскае Агенцтво» даносіць:

Па загаду Сыноду, гр. Шэптыцкі выслан у Спасо-Еўфем'еўскі манастыр у Суздалі пад спэцыальны надзор ігумена.

«Бірж. Ведом.» ў нумэры з 22 верэсьня пішуць, што ігумен манастыра ў Суздалі, куды выслан Мітрапаліт Шэптыцкі,—гэта владыка Павал, вікары валадзімерскай эпархіі. Сынод сам не пастанаўляў аб ссылцы, бо уніяцкі мітрапаліт не прыслухае яму, а толькі выбраў манастыр дзеля ссылкі».

Гэтак пішэ «Dziennik Polski». І калі гэта вестка—праўдзівая, дык трэба думаць, што вестка аб сьмерці Мітрапаліта была аснована на вывазе яго с Курска, дзе яго дагэтуль няволілі.

Як бы там ні было, мы з радасьцю дзелімся ею з нашымі чытачамі, бо яна дае надзею, што Галава Украінскай Нацыональнай Цэрквы, дасць Бог, вернецца ў свой родны край і будзе далей вясьці спыненую насільствам ворагоў збожную работу.

## Александар Сулькевіч.

**(Пасьмертны успамін).**

Толькі лепшые душы могуць адчуваць трагедію няволеных на-

Власт.

# Наездчык.

**Гістарычнае апаведаньне.**

(Гл. «Гоман» №№ 55—69).

Атрымаўшы жаданы подпіс, Вельскі павёз яго ў земскі урад, каб упісаць у гродзкіе земскіе кнігі. Справіўшыся с праўнай старaной, загадаў прыбіраць і парадкаваць у домі, а сам паехаў па дзяцей і жонку. Сам ён цешыўся, што, ў рэшці, яго жонка і дзеці ня будуць туляцца па чужых кутох, жывучы на ласцы у родных. Ен думаў, што жонка ніколі не дазнаецца, якім чародам здабыў ён гэту маетнасць, ды і чаго баяцца: дакумэнты гаварылі, што ўсё было справядліва куплена, а як бы хто здумаў сказаць што лішняе, то ён патрапіць яму стрымаць язык.

Бязмернае было здзіўленьне і радасць старых Пуцятоў, калі яны даведаліся, што зяць іхні пакінуў разбойніцкае жыцьцё і пачынае жыць звыклым шляхоцкім жыцьцём, ды ешчэ на гэткай аграмаднай маетнасьці.

Маладые Вельскіе шчасьліва дабраліся з дзяцьмі да Стараcельля і пасяліліся жыць там. Двое дзяцей іхніх: дачушка 8 і сынок 5 гадоў—рэзва гулялі і весяліліся з нянькай, гожай селянскай дзяўчынкай, у Старасельскіх садох і палёх. Толькі жонку Вельскаго душыло Старасельскае паветрэ. Старасельле здавалося ей нейкім панурым; каля Вельскаго кружылі яго насупленые вечна паплечнікі—слугі. Мейсцовые, запужаные селяне, маўчалі вечна, бо яны ешчэ жыва памяталі і спалёную сьвятыню і замучэных духоўнікоў і забітую баярыню. Усё выпаўнялося нясьмела, пасьпешна; не чуваць было ні вясёлых песень ні сьмеху, усе жылі ў страху...

Гэтак прамінуло лето. Павеяў сьцюдзёны вецер; выпаў першы сьнег. Вельскі задумаў устроіць палеваньне, якое вельмі любіў. Палеваньне удалося, і ён радасны увайшоў у пакой, дзе перад ярка пылаўшай грубой стаяў яго харошэнькі пяцігадовы хлопчык. Убачыўшы бацьку, хлопчык кінуўся на сустрэч, а бацька падняў яго на рукі, не зважаючы, што дзяцёнак разагрэты ад агня, а ён сам вярнуўся са сьцюжы.

Неасьцярога бацькі дармо не прамінула. Над раніцай у дзяцёнка паявілася гарачка і хрыпка, а за тры дні не стало беднаго хлопчыка. Вельскі абезпрытомнеў з гора.

Яго жорскі характар ня мог пагадзіцца з нешчасьцем, ён шукаў вінаватых і помсты. Ен загадаў падняць падлогу с каменных пліт у садовай капліцы, выкапаць глыбокую магілу і палажыць нежывога хлопчыка разам з жывой нянькай ды закапаць іх разам. Гэтая нечуваная помста над нічым нявіннай дзяўчынкай страшэнна падрэзала сілы яго жонкі. Яна пачала вянуць, і разам с таючым сьнегам стаяло і яе жыцьцё. Сьмерць сына і жонкі зламалі сілу і заўзятасць Вельскаго; ён пачуваў у душы, што яго крануў палец справядлівай помсты Божай.

За гэты час верны слуга Гарбуза, Будзька, разам са старым стольнікам дабіліся для свайго хвораго баярына справядлівасьці судовай. Вельскі засуджэн быў на кару горла. Даведаўшыся аб гэткай судовай пастанове, Вацлаў Прушко прыслаў ганца, каб паведаміць свайго прыяцеля аб небаспечнасьці.

Спрытны Вельскі не даў споўніць над сабой судовай пастановы; перэадзеўшыся, ён уцёк у Валошчыну і, здаецца, дабіўся там нейкаго становішча і значэньня.

**КАНЕЦ.**

*P. S.* Старасельле і Макрыдаво знаходзіліся ў Магілеўскай губ, Чэрыкоўскім павеці.

